*Сёння і заўтра яшчэ можна падпісацца на «Народную Волю», з тым каб атрымліваць газету з 1 жніўня.*

# Народная Воля

**№ 58 (3799)**

26 ліпеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Што, Сяргею Сідзько свабоды болей не відаць?*



# У Беларусі чыноўнікі сталі браць хабар па паўмільёна долараў

## *Не, не гарыць у нас зямля пад нагамі карупцыянераў...*

***(Пра арышт старшыні Белкаапсаюза С.Сідзько і іншых хабарнікаў чытайце на 2-й стар.)***

**УЧОРА**

## *Уладзімір НЯКЛЯЕЎ: «Мяне перавялі з асобнай камеры ў агульную»*

Суд Ленінскага раёна Мінска вызваліў вядомага паэта, экс-кандыдата на пасаду прэзідэнта, лідара кампаніі “Гавары праўду!” Уладзіміра Някляева ад выканання пакарання.

Нагадаем: 19 снежня 2010 года, у дзень галасавання на прэзідэнцкіх выбарах, Уладзіміра Някляева жорстка збілі каля яго передвыбарнага штаба невядомыя асобы. У непрытомным стане, з чэрапна-мазгавой траўмай і ўдарамі “хуткая” даставіла яго ў шпіталь. Адтуль Някляева, які меў статус кандыдата на пасаду прэзідэнта, адвезлі ў следчы ізалятар КДБ, дзе трымалі да 29 студзеня 2011 года. З камеры ізалятара Някляева перавялі да суда пад хатні арышт. 20 мая 2011 года суд прызнаў яго вінаватым у *“арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх”*, і пакараў двума гадамі зняволення з адтэрміноўкай выканання прысуду на два гады. Міжнародная супольнасць прызнала Уладзіміра Някляева вязнем сумлення.

Учора, 25 ліпеня, экс-кандыдат прыйшоў у суд для разгляду пытання аб далейшым адбыцці пакарання. Але ніякага судовага пасяджэння не адбылося — сакратар уручыла яму пастанову суддзі ад 23 ліпеня, згодна з якой, Някляева вызвалілі ад далейшага адбыцця пакарання. “*Гэта яшчэ раз паказвае, у якім стане знаходзіцца ў Беларусі правасуддзе*”, — сказаў журналістам Уладзімір Някляеў. Саму судовую пастанову ён пракаментаваў наступным чынам: “*Сённяшнім рашэннем суд проста перавёў мяне з асобнай камеры ў агульную, у якой знаходзіцца ўся Беларусь. Мы ўсе ў краіне застаемся калі не вязнямі, дык закладнікамі ўлады”.*

Някляеў так і не атрымаў адказу на пытанне, чаму позву ў суд яму выпісалі на 25, а не на 23 ліпеня. “*Мяне толькі спыталі: няўжо я незадаволены рашэннем*?” — патлумачыў палітык.

Да таго ж ён дагэтуль не ведае, ці захоўваецца ў яго судзімасць. *“Мае адвакаты кажуць, што калі чалавек не адбываў пакаранне ў турме, то судзімасць не захоўваецца, але ў судзе кажуць, што яна будзе захавана на працягу яшчэ двух гадоў. Таму я не ведаю, ці вернуты мне ўсе грамадзянскія правы. Але я адчуваю сябе чалавекам вольным і буду дзейнічаць як вольны чалавек”,* — сказаў ён.

Наконт сваёй далейшай дзейнасці Уладзімір Някляеў запэўніў, што ў *“выпадку неабходнасці”* будзе вылучацца кандыдатам на пасаду прэзідэнта.

**Даратэя СОЛТАН.**

**ЗДАРЭННЕ**

## Смерць дырэктара гатэля «Планета»

*Жыхары бліжэйшых дамоў запэўнілі “Народню Волю”, што бачылі міліцэйскія машыны з самай раніцы — да таго, як Валерый Агірэнка трагічна загінуў.*



Праз дзень пасля гібелі дырэктара гатэля “Планета” на месцы здарэння аб трагедыі нагадвалі толькі кінутыя медыцынскія пальчаткі ды прымятая трава ў палісадніку. Менавіта тут сканаў 60-гадовы **Валерый Агірэнка.**

Дырэктар гатэля жыў на тэрыторыі былога ваеннага гарадка. Кватэру ў панэльным доме мужчына атрымаў даўно, калі яшчэ служыў у войску.

“*Хто, вы кажаце, загінуў, дырэктар “Планеты”?* — перапытвае мясцовая жыхарка, якая выгульвае сабаку. — *Напэўна, яго мой муж ведаў. Ён дапамагаў ладзіць для сваіх аднапалчан свята ў рэстаране гатэля*”.

*“Вось чаму ўчора тут цэлы дзень стаяла міліцыя!* — далучаецца да размовы кампаньёнка дамы з сабачкам. — *Муж з крамы ішоў і бачыў за трансфарматарнай будкай міліцэйскія машыны. Але нічога такога мы не падумалі. У нас раней тут ладзілі засады — лавілі хуліганаў, што рабавалі машыны. А тут, аказваецца, чалавек загінуў”.*

Многія жыхары бліжэйшых дамоў бачылі міліцэйскія машыны, якія доўгі час стаялі ля злашчаснага дома. А вось як выкінуўся з восьмага паверха чалавек, лічы, ніхто не бачыў. Адзіная сведка, якая з акна назірала за здарэннем, сцвярджае, што мужчына скочыў з балкона ў адных трусах, было падобна на тое, што ў яго парэзаныя рукі. Пры гэтым усе балконныя рамы на восьмым паверсе ў пад’ездзе, дзе жыў Агірэнка, цэлыя. Стасуецца з версіяй аб тым, што дырэктар гатэля нібыта парэзаў вены да таго, як выкінуцца з балкона.

Між тым, праваахоўнікі пакуль наконт гэтага маўчаць. Цалкам верагодна, што парэзаныя вены — народны дадатак да гісторыі. Па раёне, дзе жыў Агірэнка, ужо гуляюць самыя неверагодныя чуткі.

*“Я сам не бачыў, але мне казалі, што ў яго былі вены перарэзаныя ды нож у печані,* — агаломшыў пажылы мужчына, які прадставіўся афіцэрам запасу. — *Я думаю, усё гэта з-за наркотыкаў”.*

Больш ніякіх удакладненняў мужчына рабіць не пажадаў.

Не змаглі распавесці нічога новага і жыхары пад’езда, дзе жыў Валерый Агірэнка. Тыя, хто пагадзіўся паразмаўляць з “Народнай Воляй”, самі жадалі б ведаць падрабязнасці.

Суседзі сцвярджаюць, што Валерый Агірэнка быў ціхім чалавекам, нічым асабліва не вылучаўся. У доме па вуліцы Садовай усяго два пад’езды, але ў дзень трагедыі людзі, што жывуць побач, таксама не заўважылі нічога адметнага.

Валерый Агірэнка працаваў у гасцінічным і рэстаранным бізнесе некалькі дзясяткаў гадоў. Адкрытае акцыянернае таварыства “Гасцініца “Планета” належыць Кіраўніцтву спраў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*“Па справе вядзецца праверка. Апытваюцца сведкі, адпрацоўваюцца розныя версіі таго, што здарылася, у тым ліку і самагубства”,* — паведамілі ў прэс-службе Следчага камітэта.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

**БЕЛАРУСЬ—ЕС**

## *Палітвязняў вызваляць?*

*Літоўскі бок прыадчыніў заслону сустрэчы міністраў замежных спраў краін Еўрасаюза і “Усходняга партнёрства”, якая прайшла днямі ў Бруселі.*

У ёй, як вядома, удзельнічаў кіраўнік беларускага МЗС Уладзімір Макей. Дзеля гэтага ЕС часова прыпыніў дзеянне візавых санкцый у дачыненні да Макея і дазволіў яму стаць ўязным у краіны ЕС. Пасля мерапрыемства ў інтэрв’ю вузкаму колу прадстаўнікоў беларускіх дзяржаўных СМІ Макей заявіў, што на сустрэчы ў Бруселі Беларусь выступіла за адмену санкцый ЕС. Аднак потым высветлілася, што падчас сустрэчы абмяркоўвалася пытанне пра вызваленне палітвязняў у Беларусі. Пра гэта журналістам БелаПАН паведамілі ў прэс-службе МЗС Літвы, якая старшынствуе ў ЕС з 1 ліпеня.

*“Так, гэта пытанне ўзнімалася. Вызваленне палітычных вязняў і іх поўная рэабілітацыя агучваліся як адна з галоўных умоў. Кіраўнікі МЗС таксама агучылі жаданне бачыць больш канструктыўнае стаўленне з боку Беларусі”,* — падкрэслілі ў прэс-службе.

На пытанне пра рэакцыю Уладзіміра Макея ў прэс-службе адзначылі: *“Літоўская дэлегацыя знайшла рэакцыю Беларусі больш канструктыўнай, чым раней. Не на ўсе пастаўленыя пытанні быў дадзены адказ і некаторыя тэмы замоўчваліся, але літоўская дэлегацыя знайшла ў выказваннях больш канструктыўнасці і жадання выбудоўваць адносіны з ЕС”.*

Праўда, беларускія палітыкі адзначаюць, што Макей паляцеў у Бельгію у той самы час, калі ў Мінску распачалі адразу дзве новыя крымінальныя справы ў дачыненні да ўдзельнікаў Плошчы Васіля Парфянкова і Уладзіміра Яроменка. Актывістаў, як вядома, спачатку асудзілі за ўдзел у акцыі 19 снежня 2010 года, а потым восенню 2011 вызвалілі, згодна з указам Лукашэнкі аб памілаванні. Аднак пасля вызвалення яны апынуліся пад прэвентыўным наглядам, фактычна — хатнім арыштам. І нядаўна ім афіцыйна прад’яўлена абвінавачанне паводле артыкула 421 Крымінальнага кодэкса (невыкананне патрабаванняў прэвентыўнага нагляду), заведзены чарговыя крымінальныя справы. Так што не выключана, што спіс беларускіх палітвязняў у хуткім часе можа папоўніцца яшчэ двума прозвішчамі.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

**ЭКСКЛЮЗІЎ**



## *Андрэс ХЕРКЕЛЬ:* У Беларусі няма рацыі ігнараваць еўрапейскія каштоўнасці

Адзін з кіраўнікоў Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, спецыяльны дакладчык па Беларусі ў 2006-м і 2012 гадах **Андрэс Херкель** рыхтуе цяпер новы даклад аб сітуацыі ў Беларусі. Нягледзячы на сваю занятасць, сп.Херкель пагадзіўся адказаць на некалькі пытанняў “Народнай Волі”.

**— Беларусь адрозніваецца ад усіх еўрапейскіх краін перш за ўсё сваёй “спецыфікай” — наяўнасцю палітвязняў і прымяненнем смяротнай кары. Неаднаразова Парламенцкая асамблея Савета Еўропы заклікала беларускія ўлады неадкладна і безумоўна вызваліць і апраўдаць усіх палітычных зняволеных. Неаднаразова ставілася пытанне аб адмене пакарання смерцю. Ці можна сёння прыняць такія адказы, як “*палітвязняў у краіне няма, а ёсць крымінальнікі, якія парушылі закон і за гэта панеслі пакаранне, а за смяротнае пакаранне выказаўся народ на рэферэндуме яшчэ ў 1996 годзе*”?**

— Для вызначэння таго, ці ёсць у краіне палітвязні, мы ўжываем спецыяльную дэфініцыю ПАСЕ па палітвязнях і інфармацыю не толькі ад СМІ ці афіцыйных улад, але і ад няўрадавых незалежных арганізацый. Такім чынам, прызнанне факту наяўнасці палітвязняў у краіне з боку ПАСЕ мае пад сабой сур’ёзную падставу. І я думаю, што беларускія ўлады, кажучы пра крымінальнікаў, проста не арыентуюцца ў сучасным свеце і не да канца адэкватна ўспрымаюць сучасную рэальнасць. Сёння не сярэднявечча, а XXI стагоддзе з вельмі высокімі стандартамі па правах чалавека, а таксама сучаснымі інфармацыйнымі сродкамі.

Што тычыцца смяротнага пакарання, то часам палітыкі павінны быць наперадзе грамадскай думкі. Можна прывесці прыклады многіх краін, дзе пасля распаду савецкага таталітарызму людзі так, як і ў Беларусі, падтрымалі смяротнае пакаранне. Але палітыкі былі супраць гэтага і не пабаяліся пераканаць людзей у адваротным. У выніку ў гэтых краінах была развіта больш сучасная, больш гуманная сістэма, і на сённяшні дзень статыстыка кажа пра тое, што колькасць цяжкіх злачынстваў зменшылася.

**— Што ж павінна сёння зрабіць Беларусь, каб наблізіцца да ўваходжання ў Савет Еўропы, дзе знаходзяцца ўсе яе суседзі, у тым ліку і Расія? Ці спрабуюць беларускія ўлады зрабіць гэтыя крокі?**

— Тое ж самае, што зрабілі балтыйскія дзяржавы на пачатку 1990-х гадоў. Трэба пабудаваць сучаснае і свабоднае грамадства. Калі ж казаць канкрэтна, то трэба адмяніць смяротнае пакаранне, вызваліць палітвязняў і правесці свабодныя выбары. Але, больш за тое, трэба правесці незваротныя сістэмныя рэформы. Расія, між іншым, да майго вялікага шкадавання, не самы лепшы прыклад. Калі звярнуцца да апошняй справаздачы па маніторынгу ПАСЕ (за кастрычнік 2012 года), то ў Расіі таксама маюцца вялікія праблемы, якія востра крытыкуюцца з боку іншых еўрапейскіх дзяржаў і розных арганізацый, у тым ліку і ПАСЕ. Напрыклад, асуджэнне Магніцкага і Навальнага.

— **Зараз вы як спецдакладчык па Беларусі рыхтуеце свой даклад. Калі вы займаліся мінулым дакладам у 2011 годзе, вас не пускалі ў Беларусь, ігнаруючы вашы запыты аб магчымасці наведвання палітвязняў. Ці змянілася пазіцыя беларускіх улад на гэты раз? Калі вас зноў не дапусцяць да палітвязняў, ці паўплывае гэта на змест вашага дакладу?**

— Заўсёды пажадана мець магчымасць наведаць краіну, пра якую рыхтуецца дакумент. Да таго ж наведванне краіны дакладчыкам сур’ёзна паляпшае ўзровень супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Саветам Еўропы. Але калі жадання дапусціць мяне ў Беларусь няма, я буду вымушаны прыступіць да працы і без візіту. У выніку я змагу не адказваць на крытыку, пабудаваную на факце, што я выкарыстаў для дакладу ўскосныя крыніцы і не наведваў Беларусь. Хачу адзначыць, што ў нас вельмі прафесійны сакратарыят, і я мяркую, што квалітэт даклада ад гэтага не пацерпіць. Але варта адзначыць, што ў выніку нядопуску дакладчыка ў краіну трохі пакутуе асабістая інфармаванасць дакладчыка і вельмі пакутуе імідж беларускай дзяржавы.

**— Беларускаму ўраду не раз прапаноўвалася правесці рэформы, каб ліквідаваць няроўнасць у размеркаванні ўладных паўнамоцтваў на карысць выканаўчай улады, як таго і патрабуе Канстытуцыя 1996 года. Ролю парламента ў краіне падрывае цэнтралізацыя заканадаўчай і выканаўчай улады ў руках прэзідэнта, указы якога з’яўляюцца асноўным заканадаўчым механізмам у краіне. Ці заўважаны Саветам Еўропы нейкія зрухі ў гэтым кірунку? Ці змянілася, на ваш погляд, залежнасць судовай улады ад выканаўчай улады ў Беларусі?**

— Я такіх зрухаў пакуль не бачу, але вельмі хацеў бы абмяняцца думкамі па гэтым пытанні як з членамі беларускага ўрада і парламента, так і з экс-парламентарыямі з лагера апазіцыі.

**— У краіне не спыняюцца спробы фарміравання ў свядомасці беларускіх грамадзян вобраза Еўропы як вобраза ворага, які толькі і чакае магчымасці захапіць краіну і спустошыць яе канчаткова. Гэтым і тлумачаць з’яўленне санкцый, рэзалюцый і г.д. Можа, і на самай справе Захад навязвае свае правілы і спрабуе перашкодзіць арыгінальнаму шляху развіцця Беларусі? Можа быць, лепш пакінуць так, як ёсць, і проста назіраць за тым, што адбываецца, з боку?**

— Еўропа з’яўляецца кантынентам, які мае пэўныя каштоўнасці. Санкцыі — гэта, вядома, нестандартны спосаб абароны еўрапейскіх каштоўнасцяў. Але трэба ўлічваць, што санкцыі заўсёды былі кропкавымі. Гэта азначае, што яны тычыліся тых людзей, якія непасрэдна былі датычныя да парушэння правоў чалавека.

Еўропа можа быць небяспечная для дыктатара Лукашэнкі, паколькі па еўрапейскіх правілах такая структура ўлады, якая на сённяшні дзень існуе ў Беларусі, проста неймаверная. Але Еўропа не небяспечная для беларускага народа. Наадварот! Назавіце краіну ў Еўропе, для якой, скажам, ЕС з’яўляўся пагрозай пасля разбурэння Берлінскай сцяны? Такіх прыкладаў няма. Але ёсць прыклады таго, што жыццё грамадства пасля прыняцця еўрапейскіх каштоўнасцяў, стандартаў і заканадаўства змяняецца да лепшага.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**Даведка**

***Андрэс Херкель — вядомы эстонскі палітык і інтэлектуал, дэпутат парламента Эстоніі, кіраўнік дэпутацкай дэлегацыі Эстоніі ў ПАСЕ, уваходзіць у кола кіраўніцтва ПАСЕ як кіраўнік Камітэта па маніторынгу.***

**ВІЗІТ**

## *Патрыярх Кірыл прыбудзе ў Мінск вечарам у нядзелю*

У беларускай сталіцы пачнецца святкаванне 1025-годдзя Хрышчэння Русі. У Мінск браніраваны цягнік кіраўніка РПЦ прыбудзе ў 23.00 28 ліпеня.

Паводле зацверджанай праграмы, святкаванне 1025-годдзя Хрышчэння Русі адкрые 29 ліпеня ў 7.30 хрэсны ход ад храма Святой Марыі Магдаліны па праспекце Машэрава да Мінскага замчышча. У 9.30 на месцы замчышча пад адкрытым небам Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл з удзелам запрошаных прадстаяцеляў праваслаўных цэркваў правядзе літургію.

Затым адбудзецца закладка памятнай граматы ў падмурак старажытнага праваслаўнага храма XI стагоддзя ў Мінску, які плануюць аднавіць на месцы замчышча. У 14.00 тут жа пачнецца святочны канцэрт з удзелам прадстаўнікоў усіх абласцей Беларусі. У 18.00 адбудзецца ўскладанне вянка да абеліска на плошчы Перамогі, а ў 19.30 пачнецца ўрачысты канцэрт у гонар 1025-годдзя Хрышчэння Русі ля Храма-помніка ў гонар Усіх Святых. На 22.00 запланаваны ад’езд гасцей.

На святкаванне 1025-годдзя Хрышчэння Русі ў Мінску чакаецца больш як 50 тысяч паломнікаў з усіх епархій Беларускага экзархата і сумежных дзяржаў. Як паведамлялася раней, у Мінск цягніком Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла будзе дастаўлены Андрэеўскі крыж. Святыня будзе выстаўлена ў Храме-помніку ў гонар Усіх Святых і ў памяць бязвінна забітых у Айчыне нашай на скрыжаванні вуліц Каліноўскага і Усіхсвяцкай, дзе застанецца да 2 жніўня.

**ПРА ШТО ГАВОРАЦЬ...**

## *Сеалін Нікалас: не забіў ніводнага гола, але мае ў месяц 32 мільёны рублёў*

У апошнія дні каляфутбольная грамадскаць стала актыўна абмяркоўваць тэму заробкаў беларускіх трэнераў і футбалістаў. На гэтым тыдні старшыня Гродзенскага аблвыканкама **Сямён ШАПІРА** падняў пытанне пра заробкі ў гродзенскім футбольным клубе “Нёман”.

Пад гарачую руку трапіў галоўны трэнер Сяргей Саладоўнікаў, месячны заробак якога складае 24 мільёны рублёў.

*“Гэта заробак трох маіх намеснікаў. А па вобласці сярэдняя зарплата 4,2 мільёна”,* — працытавала словы кіраўніка вобласці газета “Вечерний Гродно”.

Сам **Сяргей САЛАДОЎНІКАЎ** на просьбу “Народнай Волі” пракаментаваць заяву спадара Шапіры адказаў коратка: *“Тое, што пішуць у Інтэрнэце, нават абмяркоўваць не хачу. Інтэрнэт — гэта памыйка. А які сэнс нешта казаць пра памыйку?”*

Акрамя таго, Сямён Шапіра папрасіў даць яму звесткі і пра тое, у якую суму абыходзіцца хвіліна знаходжання на поле легіянера Сеаліна Нікаласа, які не забіў ніводнага гола, не аддаў ніводнай галявой перадачы, але зарабляе ў месяц каля 32 мільёнаў рублёў. Падлічылі. З 18 матчаў чэмпіянату Сеалін выходзіў на поле дзесяць разоў і правёў агулам 185 хвілін. Калі яго заробак падзяліць на гэты час, то атрымаецца, што за кожную хвіліну перамяшчэння па футбольным полі легіянер зарабляў прыкладна 860 тысяч рублёў (за кожную секунду — каля 14 тысяч).

А вось дырэктар ФК “Тарпеда-БелАЗ” **Міхаіл ХЛУС** днямі адказаў на афіцыйным сайце клуба іграку каманды Вячаславу Глебу. Апошні меў прэтэнзіі да кіраўніцтва: маўляў, футбалісты жодзінскай каманды ўжо тры месяцы сядзяць без грошай.

— Была запазычанасць, якую мы штомесячна часткамі стараемся вяртаць, — сказаў Міхаіл Хлус. — Кожны месяц футбалісты атрымліваюць грошы, а не тое што сядзяць без заробкаў. Натуральна, у кожнага свае запыты. Можа быць, для Вячаслава Глеба, які выступаў за мяжой, гэта не грошы. Аднак адзначу: тыя сумы, якія персанальна выплацілі Глебу толькі за апошнія тры месяцы, не кожны работнік Беларускага аўтазавода зарабляе за год.

Дарэчы, каб параўнаць заробкі Глеба-малодшага і работнікаў БелАЗа, я патэлефанаваў на прадпрыемства.

— На сённяшні дзень сярэдні заробак работнікаў БелАЗа складае прыкладна 6 мільёнаў рублёў, — распавядае намеснік генеральнага дырэктара па інфармацыйнай і ідэалагічнай рабоце **Станіслаў ЯКУБОВІЧ**. — Але гэтая лічба адносная, яна пастаянна вагаецца. Ёсць нейкія даплаты, павелічэнні заробкаў, карэкцыя ў сувязі з інфляцыяй...

Такім чынам, калі адштурхоўвацца ад лічбы ў 6 мільёнаў рублёў у месяц, то можна падлічыць, што Глеб атрымаў за тры месяцы 72 мільёны рублёў (у месяц — каля 24 мільёнаў).

Праўда, у самім клубе мне ўдакладнілі, што *“зарплата ў футбаліста меншая за 24 мільёны, але яна на самай справе ў чатыры разы вышэй за сярэднямесячны заробак работніка БелАЗа”.*

Шчыра кажучы, усе гэтыя разлікі не вельмі і хацелася рабіць. Дрэнная гэта звычка — калупацца ў чужой кішэні. Аднак тэзіс аб тым, што грошы не маюць паху, абвяргаецца самім жыццём. Ад грашовых разборак апошнім часам смярдзіць так, што хоць святых вынось. Пра футбол ужо і забываюцца. Зрэшты, такі ў нас і футбол...

**Алесь СІВЫ.**

## *Белорусской калийной компанией будет руководить женщина*

Как сообщила пресс-служба президента Республики Беларусь, произошли следующие кадровые назначения.

**Иванов Валерий Николаевич** назначен заместителем главы Администрации Президента Республики Беларусь, **Крот Александр Михайлович** — первым заместителем председателя Высшей аттестационной комиссии.

Получили согласие на назначение: **Кудрявец Елена Александровна** — генеральным директором закрытого акционерного общества “Белорусская калийная компания”, **Горбачев Андрей Алексеевич** — главой администрации Центрального района г.Гомеля, **Дорошевич Виктор Григорьевич** — председателем Чечерского райисполкома, **Позняк Александр Григорьевич** — главой администрации Советского района г.Минска, **Головчиц Олег Брониславович** — председателем Любанского райисполкома, **Качановский Игорь Михайлович** — заместителем министра природных ресурсов и охраны окружающей среды, **Седин Василий Алексеевич** — заместителем министра сельского хозяйства и продовольствия, **Авраменко Алексей Николаевич, Жамойтина Наталья Владиславовна** — заместителями министра транспорта и коммуникаций.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
26 ЛІПЕНЯ 2013 г.

РАКУРС

# Коррупционеры

*На днях пресс-служба КГБ распространила сенсационную новость: председателя Белкоопсоюза **Сергея Сидько** и некоторых его подчиненных задержали за взятки. Размеры взяток внушительные — полмиллиона долларов!*

Сразу стоит заметить, что Сидько и его компаньоны — не первые, кого обвинили в получении такой взятки. За последние годы на слуху было несколько коррупционных скандалов, в которых фигурировала именно такая сумма. Спрашивается: это у отечественных чиновников нынче такая такса за беспроблемное решение вопросов или у гэбистов просто на всех должностных лиц только один оперативный “рабочий чемоданчик”?

Вот только несколько историй про 500 тысяч долларов. В каждой из них — масса своих нюансов, деталей и поворотов. Одни фигуранты заслуживают сожаления, другие — категорически нет. Но, повторюсь, все случаи связаны с конкретной суммой денег.

## Дело Сергея Сидько



Оно еще расследуется, до суда — не близко. КГБ не скрывает: оперативно-розыскные и следственные мероприятия продолжаются.

***Задержаны:*** председатель Белкоопсоюза **С.Д.Сидько**, начальник управления капитального строительства Белкоопсоюза **Д.В.Колодезный**, заместитель начальника управления капитального строительства Белкоопсоюза **Э.В.Сизук**, а также представители коммерческих структур.

***За что?*** Сотрудники КГБ утверждают, что они занимались *“вымогательством за предоставление объемов работ на объектах потребкооперации, а также продажу инвесторам земельных участков и объектов недвижимости”.*

## Дело Семена Иокши

Это очень громкий случай. В мае 2006 года в Минске арестовали гендиректора ОАО “Беллегпромпроект” **Семена Иокшу,** директора КУП “УКС администрации Ленинского района Минска” **Владимира Чигрина** и замдиректора по строительству ОАО “Беллегпромпроект” **Николая Толкача** (он умер во время следствия).

Представители Генпрокуратуры говорили, что Иокша якобы убеждал представителей российской инвестиционной компании в необходимости дачи взятки должностным лицам исполнительных органов власти. Взятка в ***500 тысяч долларов*** предназначалась за содействие в выигрыше тендера, проводимого среди строительных компаний, на проектирование и строительство жилых домов на трех объектах Минска.

По приговору суда Фрунзенского района города Минска Иокша осужден к 11 годам лишения свободы с конфискацией имущества, Чигрин — к 10 годам лишения свободы с конфискацией имущества.

Адвокат одного из осужденных говорила, что это был оперативный эксперимент: *“Если бы не провокация правоохранительных органов, то этого громкого дела не было бы”.*

## Дело климовических милиционеров

Эта история случилась в райцентре Климовичи в начале 2012 года. Расследование шло больше года.

“*Старший оперуполномоченный Климовичского РОВД, старший следователь Климовичского районного отдела управления Следственного комитета по Могилевской области и начальник Климовичского РОВД “создали преступную группу и путем шантажа и угроз вымогали у предпринимателя”* ***500 тысяч долларов*** *за непривлечение его к уголовной ответственности,* — писали naviny.by. — ***Более 250 тысяч они успели получить****...”*

## Дело Игоря Васильева

В прошлом году на сайте КГБ появилось сообщение: первый заместитель председателя Мингорисполкома **Игорь Васильев** обвиняется в вымогании взятки в размере ***500 тысяч долларов*** у представителей европейского предприятия-инвестора *“за благоприятное решение вопроса, входящего в его компетенцию и связанного с заключением инвестиционного договора на общую сумму свыше 30 миллионов долларов”.*

Если верить информации КГБ, Васильев поставил условие, что передача денег должна осуществляться двумя равными частями.

Напомним, что Игоря Васильева задержали 6 июля 2012 года в служебном кабинете — портфель с четвертью миллиона долларов обнаружили в шкафу. Однако история довольно мутная: судебный процесс был наполовину закрытый, все обстоятельства дела широкой публике не известны...

Как бы там ни было, Васильеву дали 14 лет. С конфискацией. Даже некоторые правозащитники назвали приговор довольно жестким.



## Какие суммы были в моде?

Аппетиты у некоторых белорусских чиновников неплохие. Еще в 2009 году начальник отдела информации и связей с общественностью Генпрокуратуры **Петр Киселев** озвучил примерный размер взяток, которые даются должностным лицам.

*“Книгу рекордов Гиннесса мы не ведем, но максимальные взятки составляют примерно* ***200—300 тысяч евро****, иногда разговоры идут и о миллионах, но в материалах дела фигурируют именно такие цифры”*, — цитировали Киселева информационные агентства.

В те годы прокуратура Фрунзенского района города Минска как раз расследовала дело в отношении неработающего жителя Фаниполя, который убедил представителя одной из фирм дать взятку в размере ***500 тысяч долларов*** и получил за признание этой фирмы победителем на аукционе за право строительства объектов в Минске ***300 тысяч долларов.***

В мае 2009 года суд Центрального района Минска приговорил двоих минчан к 5 годам лишения свободы за подстрекательство к даче взятки.

Сообщалось, что осужденные признаны виновными в том, что *“с 10 июля по 15 августа 2008 года подстрекали представителя российской фирмы к даче взятки в размере* ***более 4 миллионов долларов должностным лицам Миноблисполкома и Мингорисполкома*** *за благоприятное решение вопроса о предоставлении в аренду земельных участков под строительство в районе Фаниполя, в Минской области и в Минске. 15 августа 2008 года обвиняемые под предлогом передачи чиновникам денег получили* ***100 тысяч долларов,*** *после чего были задержаны с поличным сотрудниками милиции”.*

В 2009 году столичная прокуратура арестовала представителя Республики Беларусь в ЗАО “Белорусская транспортно-экспедиционная и фрахтовая компания”, бывшего заместителя министра транспорта и коммуникаций Владимира Уласеня.

Чиновник подозревался в том, что вместе с директором ООО “Набат” подстрекал двух бизнесменов к даче взятки в размере **120 тысяч долларов** чиновникам Минтранса *“за благоприятное решение вопроса о заключении договоров долгосрочной аренды площадей ОАО “Автосила” и ОАО “Автокомбинат №4”,* где планировалось разместить автомойки.

После того как подозреваемые получили ***40 тысяч долларов***, они были задержаны оперативниками ГУБОП МВД. Кому предназначались деньги в Минтрансе — не известно.

В 2011 году исполняющий обязанности начальника управления по борьбе с коррупцией и организованной преступностью Генпрокуратуры **Игорь Грейбо** фактически повторил слова своего коллеги: *“Крупнейшая взятка, зафиксированная в Беларуси, составила полмиллиона долларов”.*

Миллионами взятки пока не берут. Или берут, но умело?..

ЭКСПЕРТИЗА

# Взятки — синдром бедной страны

***Еще не так давно многие считали, что если у тебя в кармане лежит миллион долларов, то можно ни о чем не думать, а беззаботно и весело жить до самой старости. Но, похоже, что в последнее время даже в Беларуси становится все больше людей, которые считают, что 500 тысяч долларов — не так уж и много.***

*Экс-глава концерна “Амкодор”* ***Василий Шлындиков*** *говорит, что 500 тысяч долларов для руководителя уровня председателя Белкоопсоюза* ***“не очень большая сумма”.***

— Белкоопсоюз — это ж почти советская торговля, а там масштабы воровства еще с советских времен были немаленькими, — *напоминает Шлындиков.* — Почему именно 500 тысяч? Не исключено, что это оперативный эксперимент. Или уверенность, что от такой суммы обычно не отказываются. Другое дело, что 500 тысяч наличными не у каждого взяткодателя найдутся... Поэтому, с одной стороны, это действительно может быть оперативный эксперимент, а с другой... Немало ведь и богатых людей...

Почему берут взятки? Такова природа человека. Китайцев расстреливают за взятки, а они все равно берут! Наверное, соблазн большой...

*Известный экономист, уважаемый профессор* ***Леонид Заико*** *в свое время подсчитал, за какую сумму в Беларуси продается практически любой чиновник.*

“Есть методы расчета средней взятки, но в данном случае это мало о чем говорит, — *объясняет Леонид Федорович*. — Запросив сумму в полмиллиона долларов, человек ориентируется, что на эти деньги сможет неплохо прожить 10 лет (по 50 тысяч в год). Или если 500 тысяч долларов положить в зарубежный банк, то в хорошем случае они будут давать 25 тысяч долларов годового дохода”.

***Существует миф, что чиновники берут взятки потому, что у них маленькая зарплата. Ответственности и забот много, а вот денег на содержание семьи и более-менее достойную жизнь не хватает. Допустим, если у председателя райисполкома зарплата 5 миллионов, то взятка в 13 тысяч долларов для него — не такие уж и скромные деньги. Но Заико считает, что взятки наличными сегодня берут только дураки, которые плохо учились в институтах и мало что вообще соображают в экономике.***

“Как правило, взятками занимаются чиновники не продвинутые, обделенные интеллектом, — *рассуждает Заико*. — Мои московские коллеги рассказывали, что у них министры и другие крупные чиновники уже давно взяток не берут. Они имеют свои фонды (благотворительные, образовательные, научные), и компании, которые чиновник курирует и продвигает, перечисляют туда деньги. И все выглядит весьма прилично.

Вообще, брать взятки наличными — это признак крайне низкой квалификации. Так поступают только неграмотные чиновники! Впрочем, достаточно посмотреть на их лица...

И правильно, что их арестовали! Дураков нужно учить...

Еще интересно, где крупные взяточники хранят деньги? Дома держать смысла нет, а как их вывезти?! 500 тысяч долларов — они в какое место засовывают?..”

***По мнению Леонида Заико, полумиллионные взятки — это, кроме всего прочего, синдром бедной страны.***

Поскольку ни экономика, ни политическая система в Беларуси не реформированы, то многие чиновники чувствуют себя временщиками. Их интересуют не столько государственные проблемы, сколько то, как бы, находясь у власти, побольше урвать...

***Как правило, взяточников наказывают немалыми сроками лишения свободы. Василий Шлындиков считает, что это не совсем правильно.***

“Думаю, по экономическим преступлениям давно пора перестать лишать свободы, — *высказывает свое мнение Василий Михайлович*. — 500 тысяч взял — миллион или даже два выплачивай! Может же быть, что человек взяток набрал на миллионы долларов, а попался на сотне-другой. На его содержание в тюрьме государство потратится, а он через несколько лет будет на свободе и при немалом капитале.

Поэтому, хочешь остаться на свободе — продавай дом, квартиру, дачу, машину, проси в долг у друзей... Выбирай, что тебе важнее — свобода или деньги. И пусть человек пашет, зарабатывает и выплачивает штрафы в бюджет. А если уже повторно попался на взятке, тогда — в тюрьму...”

**Марина КОКТЫШ.**

ЧУЛІ?

## *Даражэюць цыгарэты*

Чарговае падаражэнне чакае курцоў у жніўні. Рост коштаў закране ў асноўным імпартныя цыгарэты. Падаражанне складзе ад 5% да 21,2%.

## *Завінаваціліся 4 мільярды долараў*

Менавіта такая сума доўгу сельгаспрадпрыемстваў Беларусі, адзначаецца ў справаздачы “Сацыяльна-эканамічнае становішча Беларусі ў студзені—чэрвені 2013 года”, які апублікаваны на сайце Нацыянальнага статыстычнага камітэта.

Таксама ў справаздачы адзначаецца, што рэзка вырасла доля стратных сельгасарганізацый. Калі ў мінулым годзе іх колькасць складала 30,5%, то ў гэтым — 54,1%.

НЕЗАШОРАНЫМ ВОКАМ



*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

# Ці дажыве Згуртаванне беларусаў свету як легальная арганізацыя да наступнага з’езда?

*(Нататкі са з’езда беларусаў свету)*

23 і 24 ліпеня ў Мінску праходзіў Шосты з’езд беларусаў свету, арганізаваны Міжнародным грамадскім аб’яднаннем “ЗБС “Бацькаўшчына”. Добра памятаю першы такі з’езд, што адбыўся роўна 20 гадоў таму ў Вялікай зале Нацыянальнага тэатра оперы і балета. У арганізацыі таго з’езда актыўны ўдзел брала дзяржава, віцэ-прэм’ер **Міхаіл Дзямчук**, тагачасныя міністры замежных спраў (**Пётр Краўчанка**), культуры (**Яўген Вайтовіч**), інфармацыі (**Анатоль Бутэвіч**), адукацыі (**Віктар Гайсёнак)…** У прэзідыуме з’езда можна было бачыць першага кіраўніка незалежнай Беларусі **Станіслава Шушкевіча**; побач з ім сядзелі **Васіль Быкаў і Радзім Гарэцкі, Зянон Пазьняк і Янка Запруднік, Рыгор Барадулін і Алег Латышонак…**

Шмат вады сплыло ў нашай Свіслачы з часу той запамінальнай падзеі. І вада гэтая далёка не пачысцела. Ніхто з дэлегатаў таго, Першага, з’езда не мог падумаць, што ўжо на другім з’ездзе давядзецца прымаць рэзалюцыю ў абарону Беларускага гуманітарнага ліцэя (які тады ўтрымаўся, але ў 2003 годзе ўсё-такі быў афіцыйна зачынены), а на ўсіх наступных з’ездах уздымаць пытанне пра палітычных зняволеных у Беларусі. Вось і гэтым разам, пазбаўленыя волі, не маглі сустрэцца з дэлегатамі з’езда ні **Мікола Статкевіч**, ні **Павел Севярынец**, ні **Зміцер Дашкевіч**, ні **Мікалай Аўтуховіч…** Не маглі прыехаць на з’езд палітычныя эмігранты **Зянон Пазьняк, Андрэй Саннікаў, Сяргей Навумчык, Алесь Міхалевіч**... Не атрымаў уязной візы ў Рэспубліку Беларусь прызнаны лідар беларусаў Беласточчыны (і, дарэчы, сябра Вялікай Рады ЗБС “Бацькаўшчына”) **Яўген Вапа.**

На з’ездзе, як звычайна, гучалі заклікі некаторых дэлегатаў (у асноўным з Расіі і Украіны) “не палітызаваць з’езд” і наогул зняць з разгляду праект рэзалюцыі ў абарону палітвязняў. Іншыя дэлегаты пярэчылі: пытанне гэтае не палітычнае, а чалавечае, гуманітарнае. У выніку Шосты з’езд беларусаў свету абсалютнай большасцю галасоў (пры толькі васьмі галасах “супраць”) прагаласаваў за ўхвалу “Пра акт добрай волі”, у якой, сярод іншага, гаворыцца:

“*Натуральным з’яўляецца клопат грамадзян пра будучыню краіны...*

*Натуральным з’яўляецца тое, што не ўсе людзі аднолькава ацэньваюць розныя дзеянні ўлады, у першую чаргу тыя, якія тычацца пытанняў унутранай і замежнай палітыкі, перспектыў захавання незалежнасці краіны...*

*Моцная ўлада, упэўненая ў сваёй праваце, вядзе дыялог са сваімі палітычнымі апанентамі. На жаль, у Беларусі і сёння ёсць людзі, што пазбаўлены волі за свае палітычныя перакананні, якія не супадаюць з афіцыйным меркаваннем, і не маюць магчымасці ўдзельнічаць у такім дыялогу...*

*У пабудове моцнай незалежнай Беларусі вельмі важнымі з’яўляюцца адзінства нацыі, разуменне ўсімі грамадзянамі каштоўнасцяў дэмакратыі і суверэнітэту,*

*Улада павінна аб’ядноўваць людзей, быць справядлівай і добразычлівай да ўсіх грамадзян краіны незалежна ад іх палітычных поглядаў. Жорсткасць не будуе, а разбурае.*

*Мы заклікаем улады Беларусі зрабіць акт добрай волі і вызваліць з месцаў зняволення людзей, якія знаходзяцца там у пакаранне за свае палітычныя перакананні...*”

Сама “ўлада” ў асобе міністра культуры **Барыса Святлова** выявіла сябе, здаецца, толькі ў першы дзень работы з’езда. Гэты высокі чыноўнік выступіў перад дэлегатамі, расказаў ім пра ініцыятывы і праграмы міністэрства (значная частка якіх была ініцыявана папярэднім міністрам **Паўлам Латушкам**). Паведаміў прысутным, што праект закона “Аб беларусах за мяжой”, аб прыняцці якога гаворка вядзецца ад самага першага з’езда, нібыта ўжо знаходзіцца ў Нацыянальным сходзе...

Міністра адукацыі **Сяргея Маскевіча** ў зале відаць не было. Ды і чым мог бы пахваліцца той міністр? Тым, што за апошнія 20 гадоў не толькі не з’явілася ніводнай новай школы з беларускай мовай навучання за межамі краіны (а гэта мусіла б быць натуральным клопатам міністэрстваў такога кшталту), але і ў самой Беларусі колькасць тых, хто вучыцца ў базавай і сярэдняй школе па-беларуску, скарацілася да 16 з невялікім лішкам працэнтаў? Ці тым, што прафесія педагога ў Беларусі зрабілася настолькі непрэстыжнай, што сёлета нават самыя вядомыя ВНУ краіны маюць недабор ахвочых вучыцца на педагагічных спецыяльнасцях? А можа, тым, што вучні сённяшніх беларускіх школ павінны вучыць гуманітарныя дысцыпліны па стэрыльна адцэнзураваных і заідэалагізаваных, да таго ж безальтэрнатыўных падручніках, якія і падручнікамі па вялікім рахунку назваць цяжка?

У выступленнях шмат каго з дэлегатаў Шостага з’езда беларусаў свету стрыжнёвай тэмай гучаў боль: калі дзяржава так надалей будзе ставіцца да беларускай мовы, то беларуская нацыя ў эпоху глабалізацыі папросту не выжыве. Гэты боль адлюстраваўся і ў амаль аднагалосна прынятай з’ездам рэзалюцыі “Беларуская мова — галоўны фактар захавання беларускай нацыі”. Клопат пра захаванне культурна-гістарычнай матэрыяльнай спадчыны таксама знайшоў сваё адлюстраванне ў адмысловай ухвале з’езда.

Схіляю галаву перад арганізатарамі гэтага форуму, уяўляючы, якіх высілкаў каштавала забеспячэнне магчымасці ў сённяшніх умовах правесці такі з’езд у Мінску. Пра памяшканне ўдалося ўрэшце дамовіцца толькі з кіраўніцтвам Нямецка-беларускага цэнтра імя Ёганэса Рау. Няпроста было знайсці магчымасці прафінансаваць пражыванне, харчаванне, культурную праграму для дэлегатаў з’езда. Да апошняй хвіліны не было яснасці ў сітуацыі з уязнымі візамі. Дэлегат з’езда, сябра Вялікай Рады “Бацькаўшчыны”, вядомы гісторык, прафесар Беластоцкага і Гданьскага ўніверсітэтаў **Алена Глагоўская** распавяла дэлегатам, як цэлая група беларусаў-беластаччан правяла цэлы дзень у вестыбюлі беларускага консульства: рашэнне пра выдачу ім віз было прынята толькі а шостай гадзіне вечара ў мінулы панядзелак — гэта значыць за 13 гадзін да пачатку работы самога з’езда! Падобна на тое, што “Бацькаўшчыне” (старшынёй якой з’езд на чарговы тэрмін пераабраў **Алену Макоўскую**) у будучым давядзецца спадзявацца на гасціннасць іншых краін. Куды, нарэшце, здолеюць прыехаць усе, хто сапраўды хацеў бы прыехаць.

Зрэшты, не вядома, ці дажыве Згуртаванне беларусаў свету як легальная арганізацыя да наступнага з’езда. Бо ў аўторак дэлегаты Шостага з’езда з вуснаў кіраўніцы яе Рады **Ніны Шыдлоўскай** пачулі інфармацыю пра тое, што мінскія ўлады пакуль што адмовілі гэтай арганізацыі ў працягу арэнды памяшканняў...

ПАРАЛЛЕЛИ

## *Рынок арендного жилья в Минске более дикий, чем в Москве?*

*Спрос на съемное жилье в Белокаменной падает, а в столице Беларуси по-прежнему 5—6 кандидатов на одну квартиру.*

Минские риелторские агентства в один голос твердят: спрос на арендное жилье в столице достиг небывалых размеров. Впервые за многие годы лето не стало периодом затишья. Найти квартиру сегодня так же непросто, как и в “горячие” месяцы, а на квартиры одновременно претендуют по 5—6 желающих. Ну а если предложение особо выгодное, соперниками становятся 15—20 человек. Спрос влияет на предложение. Сегодня средняя цена аренды однокомнатной квартиры — 300—350 долларов, “двушки” — 350—450, а трехкомнатной — от 400. Тенденции таковы, что ждать падения цен не приходится.

Даже в Москве, которая давно стала городом-легендой среди квартиросъемщиков, дела обстоят куда цивилизованнее.

*“Согласно информации компании “МИЭЛЬ”, по итогам июня спрос на аренду жилья снизился на 1,3 процента, а объем предложения остался на майском уровне,* — передает lenta.ru. — *Более 66 процентов квартир предлагается по цене от 1000 до 3000 долларов в месяц. На объекты стоимостью 750—1000 долларов приходится около 24 процентов, до 750 долларов — 4,8 процента”.*

При этом средняя зарплата учителей в Москве — 2000 долларов. В Минске же педагог зарабатывает едва ли четвертую часть этой суммы.

**Мария МАЛЕВИЧ.**

## *Грошы ад суботніка — на машыны «хуткай дапамогі»*

25 мільярдаў 854 мільёны рублёў, атрыманых ад правядзення рэспубліканскага суботніка 20 красавіка бягучага года, атрымае Міністэрства аховы здароўя на набыццё спецыяльных аўтамабіляў хуткай (неадкладнай) медыцынскай дапамогі з поўнай камплектацыяй іх медыцынскай тэхнікай і іншым абсталяваннем, якое неабходна для правядзення рэанімацыйных мерапрыемстваў.

Такое рашэнне змешчана ў пастанове Савета міністраў.

МАРШРУТ

## *Новы рэйс «Белавія»*

Аб адкрыцці 19 верасня новага авіярэйсу Мінск—Будапешт—Бялград расказаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Сербіі ў Беларусі **Стаян Еўціч**.

Амбасадар удакладніў, што для беларускіх грамадзян, якія вандруюць з Мінска ў Бялград транзітам праз Будапешт, не спатрэбіцца візы, паколькі ўезд у Сербію для беларусаў бязвізавы. Без віз знаходзіцца ў Сербіі беларусы змогуць на працягу аднаго месяца.

У сваю чаргу генеральны дырэктар “Белавія” Анатоль Гусараў паведаміў, што продаж квіткоў на гэтыя рэйсы ўжо пачаўся. Рэйс будзе выконвацца два разы на тыдзень.

